© PDF: Kamunikat.org 2019
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019


### НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

**29 красавіка – Ірына-расадніца**. Сей капусту на расадніну.

**30 красавіка – Вялікдзень праваслаўны**.

*Прыйшоў май – і пад кустом рай.*

**1 мая – Кузьма**. *"Май Кузьма з морквінай сустракае, а Пахом з гурком праводзіць"*. У гэты дзень сеялі моркву, буракі.

### ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

## Частаваць можна, няволіць грэх



## Пасха «Ружовая»

***На 1 кілаграм тварагу – паўтары шклянкі варэння, паўшклянкі цукру, 3 яйкі, 200 грамаў масла і 3 шклянкі густой смятаны.***

Спачатку рыхтуем і адціскаем пад прэсам тварог, потым змешваем яго з густым варэннем (лепш за ўсё ўзяць духмянае, да прыкладу, з малін, лясных суніц). Можна дадаць паўшклянкі цукру. Праціраем праз сіта, дадаем яйкі, масла і смятану, добра перамешваем і кладзем у форму. Пасха атрымаецца прыемнага ружовага колеру, з цудоўным водарам ягад.

## Велікодны баранчык

***375 г мукі, 250 г масла, 275 г цукру, 3 яйкі, 3 вял. лыжкі какавы, 250 г молатага міндалю (можна замяніць гарбузовымі семкамі).***

З мукі, масла, 125 г цукру і 2–х яечных жаўткоў замясіць цеста. Раздзяліць яго на 2 часткі і ў 1 частку дадаць 2 вял. лыжкі какавы. Цеста завярнуць у фольгу і пакласці на 30 хвілін у халадзільнік.

Кожную частку цеста раскатаць у выглядзе прамавугольніка памерам, прыкладна, 30x25 см на пасыпаным мукой стале і выразаць па шаблоне баранчыкаў.

3 яечныя бялкі ўзбіць, паступова ўсыпаючы астатні цукар, і асцярожна дадаць молаты міндаль. Масу раздзяліць папалам і ў 1 частку дадаць астатнюю какаву. Выкласці ў кандытарскі мяшэчак з зоркападобнай насадкай і выціснуць масу на баранчыкаў.

Выпякаць у папярэдне разагрэтай духоўцы пры тэмпературы 200 градусаў на другім узроўні знізу на працягу 5 хвілін. Затым знізіць тэмпературу да 160 градусаў і выпякаць яшчэ 10–15 хвілін.

***Падрыхтавала Наталля БРОЎКА.***

### Конкурс

**«Рэгіянальная газета» працягвае конкурс на лепшы гумарыстычны малюнак, шарж на вядомага ў рэгіёне чалавека і да т. п.**

*Пераможцы атрымаюць прызы, сярод якіх – тэлефонны апарат. Чакаем вашыя пасланні; да разгляду прымаем, у тым ліку, факсы (якасныя!) або электронныя лісты.*

### НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

## Грэшны падвох

Што Сёмка Зыкаў быў ласы да прыгожых дзяўчат, у Залессі было вядома: толькі з'явіцца ў вёсцы новая дзяўчына, а Сёмка тут як тут. Высокі, шыракаплечы, танцор і весяльчак – якраз з тых, што падабаюцца дзяўчатам. Пады дзе, бывала, для запрашэння на танец да незнаёмкі, а тая вочкі долу, сэрца тых–тах, а рука ўжо сама кладзецца на крутое плячо кавалера... Апошнім часам Сёмка зусім ачмурэў...

– Трэба штосьці рабіць, штосьці прыдумаць, – рашылі былыя ды пакінутыя саперніцы.

Неяк надвячоркам ідзе Сёмка на спатканне да новай знаёмай, а насустрач, быццам незнарок, Райка Пухава.

– Можна цябе на хвілінку?

– Ніякіх хвілінак: з табой усё скончана!

– Ну міленькі, даражэнькі, – і слёзы ручаямі.

– Што яшчэ? Давай...

– Не хацела непакоіць, але хутка нас будзе трое.

– Што? – гаркнуў на ўсю вуліцу. І ходу.

Прайшло колькі дзён. На танцах, калі скончылася заліхвацкая полька, і Сямён з новай залёткай выйшаў з круга, да яго рашуча падышла Ганька Дубініна:

– Ну што, гад падкалодны, бугай калгасны, нагуляўся? – на ўсю залу закрычала яна. – А ў мяне пяты месяц. Даведаецца бацька – мне галаву з плеч, заслужыла, але ж мае брацікі твае костачкі патрушчаць!

У зале цішыня...

– Не разумею, – прашаптаў Сёмка пабялелымі вуснамі (нахабнікі, вядома, баязліўцы).

– Не разумееш? Мазгі высахлі? – працягвала Ганька, быццам распранала небараку. – А хто дамагаўся, кляўся, так абяцаў, што я, дурніца, паверыла?

Сёмка абвяў, фанабэрыстасць знікла, быццам маланкай, абпаліла думка: "Ужо дзве, а калі і гэтая?".

"Гэтай" побач ужо не было, затое два двухметровыя дзяцюкі, браты Ганькі, з'явіліся побач – жаўлакі на скулах і кулакі пудовыя. Па дамоўленасці з сястрой, яны маўчалі.

У Сёмкі спачатку дух захапіла, а потым, быццам лось, ірвануў дадому.

– Што здарылася? – спалохаліся бацькі.

– З'еду я! – заявіў Сёмка.

Маці закудахтала:

– Куды? Чаго?

– Надакучылі вы мне ўсе, абрыдлі...

І Сёмка з'ехаў. У маці не высыхаюць вочы, а бацьку не пакідаюць думкі. Падвох сапраўды стаўся грэшны, з пераборам выйшаў.

***Уладзімір КАРАЛЬКОЎ.***

### ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ

## Аўтобусныя затрыманні-2



Аўтобусны прыпынак. Жанчына выходзіць з аўтобуса і бачыць, што ў яе бок спяшаецца мужык даволі падазронага выгляду, а за ім бяжыць міліцыянер і лямантуе:

– Затрымайце яго!!!

Жанчыны ў нас свядомая частка грамадства, таму "наша" вырашае дапамагчы ахоўніку правапарадку – смела падстаўляе мужыку падножку.

Той з усяго размаху плюхаецца на асфальт, следам падбягае міліцыянер і са словамі: "Усё ж такі паспеў!" заскоквае ў аўтобус.

Дзверы адзінкі грамадскага транспарту зачыняюцца, і тая паспяхова ад'язджае. А непаважліва звалены на зямлю мужык падымаецца...

***Сямён РАБІНОВІЧ.***

### ПАВАРУШЫ МАЗГАМІ

## Складзі лікі (вынікі папярэдняга задання)

Добры дзень добрым людзям! Якім Пярэчка рады чарговай сустрэчы з прыхільнікамі рубрыкі інтэлектуальных гульняў, якія падуладныя розным узростам.

Калі ты, мой дарагі чытач, правільна расшыфраваў набор сімвалаў папярэдняга задання, то ў цябе павінна было атрымацца наступнае:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 123 | + | 576 | = | 699 |
| + | | + | | + |
| 450 | + | 112 | = | 562 |
| 573 | + | 688 | = | 1261 |

Такія адказы своечасова даслалі Сяргей і МіколаЛіннікі з Радашковічаў, Алена Міцкевіч з Рагазаў пад Маладзечнам, Юля Ягеловіч з Маркава, маладзечнацы Іосіф Кароцік, Андрэй Ляхновіч, Раман Рай, Вольга Рубан, Ірына Сахацкая, Каця Северына, Юрый Юхневіч, Святлана Русецкая, Алена Самаль, Марына Рудзько, Аляксандр Кучэрын, Алеся Коглік, Наталля Стасяловіч, Алег Станкевіч, віляйчане Сяргей Свіршчэўскі, Андрэй і Дзмітрый Луцкія, Каця Моніт, Іван Кліменак і Віталь Чарняўскі з Лотвы на Мядзельшчыне, Сяргей Валынец з вёскі Гаравіны ля Хажова на Маладзечаншчыне.

Прыз — музычная касета – – выпаў на **Андрэя Луцкага** з Вілейкі. Віншую!

## 5. Упішы лічбы

Упішы лічбы ў пустыя клетачкі. **Дашлі рашэнне на паштоўцы** на адрас рэдакцыі.

Поспехаў!

***Якім ПЯРЭЧКА.***

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 7 | + | | - | | = | 5 |
| + | ■ | - | ■ | + | ■ | + |
| | - | 2 | + | | = | |
| - | ■ | + | ■ | - | ■ | - |
| | + | | - | | = | 6 |
| = | ■ | = | ■ | = | ■ | = |
| 5 | + | 5 | - | | = | 7 |

## З нашай пошты

Пераможца папярэдняга тура (заданне пра "чорную авечку") віляйчанін **Сяргей Свіршчэўскі**, якому мы даслалі ў якасці прыза музычную касету, напісаў нам:

"Дарагая і шаноўная рэдакцыя "РГ". Вельмі хачу падзякаваць за падарунак. Ён прыйшоў менавіта на мой дзень нараджэння. ***З павагай да вас, Сяргей***".

Няхай толькі добрыя супадзенні ў нашым жыцці цешаць нас.

***Якім П.***

### СТРАШЫЛКІ

## Грыбы

З'явіліся першыя веснавыя грыбы – смаржкі ды страчкі. Пайшоў у лес, набраў.

Учора я сартаваў грыбы. Чарвівыя адкладаў, а добрыя смажыў.

Потым я ўзяўся за чарвівыя. Пагрызеныя месцы выразаў і адкладаў, а добрыя пасмажыў і з'еў.

Затым я ўзяўся за тое, што засталося. Акуратна выцягнуў усіх чарвякоў і адклаў іх, грыбную мякаць пасмажыў і з'еў.

Чарвякоў я пазней таксама з'еў. Іх не смажыў – абрыдла.

***Янка ГРЫБНІК.***

### РОЗДУМЫ ТЫДНЯ

– Уяўленне – уласцівасць розуму, якая прымушае нас меркаваць, што мы кіравалі б лепей, чым наш начальнік.

***(Аўтарства невядомае).***

– Дырэктар – такі ж чалавек, як і ўсе астатнія, толькі ён пра гэта не ведае.

***(Р. Чандлер).***

– Рай – гэта месца, дзе няма начальнікаў, будзільнікаў і панядзелкаў.

***(Зборнік "Па слова ў кішэню").***

### ГАРАСКОП 1 – 7 МАЯ



**Авен (21.03–20.04)**

Цікавы перыяд, поўны супярэчнасцяў і кампрамісаў. З аднаго боку, ваша сэрца адкрытае да новага пачуцця, з іншага – вы ўпарта працягваеце іграць ролю незалежнага лідэра.



**Цялец (21.04–21.05)**

Калі камусьці і будзе невыказна шанцаваць – то гэта вам. Многіх чакае заключэнне доўгатэрміновых саюзаў, у тым ліку, і шлюбных. Паступленне значных сум, вялікая колькасць пакупак для сябе і дома.



**Блізняты (22.05–21.06)**

Практычна ўвесь перыяд вы будзеце знаходзіцца ў апатычным стане. А вось 4 мая праявяцца цікавыя здольнасці: вы ўмела выкарыстаеце людзей, праявіце каварства. Зможаце паспяхова працаваць на публіку.



**Рак (22.06–23.07)**

У пачатку мая скончыцца перыяд павышанага траўматызму і небяспекі. З трэцяга мая – прыліў сіл, праяўленне творчых здольнасцяў і артыстызму. Адной абаяльнасцю вы лёгка дасягнеце таго, на што раней патрацілі шмат інтэлекту.



**Леў (24.07–23.08)**

Вы будзеце надзвычай успрымлівыя да любых уздзеянняў – пустыя перажыванні, хваляванні, нервовасць... Усё гэта можа прывесці да сварак і крыўдаў. Ёсць таксама небяспека ізаляцыі, асцярожней з уладамі.



**Дзева (24.08–23.09)**

Колькі б вы ні намагаліся крочыць наперад, нейкая сіла будзе вам аказваць супрацьдзеянне. Ніякія планы ў гэты перыяд не маюць шанцаў на доўгае жыццё. Лепшы сродак ад марнай мітусні – перачакаць.



**Шалі (24.09–23.10)**

У вас праявіцца талент да знаходжання рэчаў, якія прапалі, да яснабачання. Увесь тыдзень вы будзеце абароненыя гэтым дарам, які вам адкрыўся. Выкарыстайце сітуацыю, каб убачыць ворагаў сярод "сяброў".



**Скарпіён (24.10–22.11)**

Не праяўляйце залішнюю экстравагантнасць: можаце атрымаць звонкую аплявуху ад грамадства. У Скарпіёнаў, завязаных на калектыўную працу, магчымая згуба маёмасці. Індывідуалам будзе лягчэй.



**Стралец (23.11–21.12)**

Не плануйце маштабных мерапрыемстваў, усё можа скончыцца поўным крахам. У астатнім – перыяд спакойны. А калі скіруеце сваю актыўнасць на выношванне ўласных ідэй, наогул, тыдзень будзе добры.



**Казярог (22.12–20.01)**

Добрыя і плённыя дні чакаюць тых Казярогаў, хто не надта патрабавальны да навакольных. Капрызлівым жа могуць даволі жорстка паказаць іх месца. Магчымае прыемнае падарожжа або паездка за горад.



**Вадалей (21.01–19.02)**

Чым менш вакол вас будзе чужых і малазнаёмых людзей, тым лепш. У многіх з вас, асабліва ў жанчын, маюць адбыцца значныя перамены, аж да змены партнёра, працы або месца жыхарства.



**Рыбы (20.02–20.03)**

Калі вас пацягне да людзей, з якімі даўно рассталіся, ці захочацца развітацца з цяперашнім асяроддзем, не супраціўляйцеся, як гаворыцца, сэрца не падвядзе.

### КРЫЖАВАНКА

*ад Ірыны Сахацкай*

## За разгадванне крыжаванак

**На конкурс разгадвальнікаў крыжаванак працягваюць паступаць вашыя лісты. Па тэхнічных прычынах ў мінулым нумары мы не змаглі паведаміць, што разгадванне той крыжаванкі прынясе 2 балы. Сённяшняя ацэненая ў 1 бал.**

**Гэта трэцяя конкурсная крыжаванка, застануцца яшчэ 2.**

**Нагадаем, пераможцу чакае скрынка піва (з карэктаваннем-папраўкай, калі лепшай стане жанчына або непаўналетні).**





1. Царкоўнае свята. 2. Бязлесная прастора з травой у зоне сухога клімату. 3. Тое, да чаго імкнуцца, што трэба здзейсніць. 4. Адзін з чатырох мушкецёраў з рамана А. Дзюма. 5. Адчуванне пакуты. 6. Дзікая і хатняя вадаплаўная птушка з доўгай шыяй. 7. Пакрышаныя камяні. 8. Птушка. 9. Кусок тканіны, скуры, які прышыты на дзіраве месца. 10. Няшчасце, бяда, зло. 11. Месца пад плечавым згібам. 12. Морда ў жывёлы. 13. Вузкая паласа. 14. Край неабрэзанай дошкі. 15. Аб'яднанне. 16. Верхняя канечнасць чалавека. 17. Вялікая колькасць чаго–небудзь сыпучага. 18. Раслiннае масла. 19. Маленькая падушачка. 20. Чырвона–буры налёт на жалезе. 21. Смутак, журба. 22. Зімовы месяц. 23. Шнурок у свечках, газніцах, некаторых лямпах. 24. Насенне гэтай расліны ўжываецца як прыправа да сыру, пячэння і г. д. 25. Агульная колькасць чаго-небудзь. 26. Стрыжань, на якім трымаюцца колы. 27. Горад у Грэцыі. 28. Марка амерыканскага аўтамабіля. 29. Гук ад удараў, гайдання чаго–небудзь шклянога, металічнага. 30. Дзяржава на Бліжнім Усходзе.

***Адказы на крыжаванку, змешчаную ў №16***

Па гарызанталях: 1. Укол. 4. Тата. 8. Гарсэт. 9. Грабар. 11. Ала. 14. Люты. 17. Арыя. 18. Прысмак. 19. Густ. 21. Акно. 22. Лапа. 23. Карп. 24. Ягня. 27. Ёкат. 30. Відэлец. 31. Мова. 32. Анёл. 34. Сто. 37. Слімак. 38. Даніна. 39. Ікол. 40. Мора.

Па вертыкалях: 2. Каса. 3. Лата. 4. Тога. 5. Трал. 6. Партос. 7. Жабрак. 10. Глог. 12. Ляск. 13. Сяло. 15. Крупнік. 16. Кавалер. 20. Тля. 21. Апе. 24. Ярмо. 25. Навала. 26. Фэст. 28. Каніна. 29. Тула. 33. "Смак". 34. Скол. 35. Одум. 36. Кныр.

### ПРОСТА АНЕКДОТ



Сустракаюцца два бамжы. Адзін аднаго пытаецца:

– Як святы бавіў?

– Ды праседзеў дома увесь час.

– А што так?

– Ат!.. Нейкі баран машыну на люк паставіў.


© PDF: Kamunikat.org 2019
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

